Opłata pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 7. Вільня, Серада, 15-га кастрычніка 1924 г. Год I.

## Збор ахвяраў на карысьць Беларускага прытулку у Вільні.

**У ПЯТНІЦУ, 17 КАСТРЫЧНІКА**, адбудзецца ў Вільні **ЗБОР АХВЯРАЎ** на карысьць прытулку для беларускіх сірот і дзяцей бедных бацькоў.

Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны, які апякуецца памянёным прытулкам, зьвяртаецца да беларускага грамадзянства і да ўсіх людзей добрай волі—з вялікай просьбай: **прыняць чыннае ўчасьце ў зборы, як сваей працай, так і ахвярамі.**

Усіх ахвочых прыняць удзел у зборы Камітэт просіць зьявіцца ў **чацьвер, 16 Кастрычніка**, а **5 гадзіне** вечарам у памешканьне Беларускай Гімназіі (Вострабрамская вуліца, дом № 9) для нарыхтаваньня **падзелу працы** ў дзень збору.

*Прысутнасьць усіх сяброў Таварыства помачы пацярп. абавязкова.*

## І углыб, і ушыр.

Пад той час, як там—на „вялікім сьвеце“—робяцца „вялікія справы“: сварацца і годзяцца—заўсёды коштам слабейшых народаў—волаты гэтага сьвету,—паняволеныя народы ня толькі не выяўляюць імкненьня пакарыцца і даць сябе праглынуць дужэйшым за іх „валадаром“ сваім, але нават і ў няволі крапчэюць, разьвіваюць свае мускулы ў штодзенным змаганьні, гуртуюцца, арганізуюцца і супольнымі сіламі сваіх сыноў выкоўваюць свае культурныя цэннасьці.

Узяць хаця наш народ беларускі, частка якога апынулася пад уладаю Польшчы. Ня будзем паўтараць аб тым, як цяжка нам тут жывецца: гэта ўсім добра ведама, апрача толькі... саміх палякоў! Скажам затое, *як і чым мы жывем.*

Вось-жа магутны народны рух да адраджэньня, які паставіў беларускае пытаньне на міжнародавую вышыню, ня толькі не заціхае, ня толькі ня глушыцца ў страшэнна ненармальных варунках жыцьця Заходняе Беларусі, а, наадварот, ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку польскае дзяржаўнасьці і польскага грамадзянства, шырыцца і расьце з кожным днём і ўглуб, і ўшыр.

Бо глыбака ў душы „простых“ сярмяжных людзей запала гэтае слова „Беларусь“. Бо ўскалыхнула яно масы беларускія ажно да самых цёмных нізоў. Бо думка беларуская паглыбляецца і творыць усё новыя каштоўныя цэннасьці роднае культуры.

І рух вядзе ўжо не малая толькі жменька ідэалістаў, якую можна было-бы пасадзіць у вастрогі ці выкінуць за межы краю, як гэта рабіла ўлада ліхое памяці „Сярэдняе Літвы“. Не: цяпер рух творыць ужо самая народная маса, якая спасярод сябе кожын дзень дае новых байцоў за волю і шчасьце беларускага народу. Сотні сыноў сялянскіх вучацца ў беларускіх гімназіях, і спаміж іх выйдуць рады новых працаўнікоў на грунце тварэньня беларускае культуры і будаваньня Бацькаўшчыны. Больш за сто беларускіх студэнтаў вучыцца ў вышэйшых школах прыязнае да нас Чэхаславакіі, а якой дарогай яны пойдуць у жыцьці, красамоўна гавораць ажно дзьве пражскія студэнцыя часопісі ў беларускай мове і адна—ў французскай....

Вільня, найстарэйшы беларускі культурны цэнтр—і ў далёкай мінуўшчыне, і цяпер—у пэрыяд „другога Рэнэсансу“,—ужо не зьмяшчае ўсіх культурных працаўнікоў і ўстаноў. Рух на шырокіх прасторах Заходняе Беларусі разьліваецца шырокай, непераможнай хваляй ад краю да краю нашае зямлі. І ўсе гэта—пад цяжкім ярмом няволі і нячуванага ўціску....

Сьвежа трэба адзначыць яшчэ адну праяву, дужа характэрную з таго боку, што яна сьведчыць аб немагчымасьці дарогай гвалтаў і грубае сілы зьнішчыць дух беларускі на роднай зямлі.

Усім ведама, што Горадня ў свой час—колькі гадоў назад—прадстаўляла сільны асяродак беларускага руху. Існаваў там рад палітычных і культурных беларускіх устаноў, школы, тэатр, каапэратывы, газэты. І ўсё гэта рукой „братняга“ народу зьнішчана ў працягу трох-чатырох гадоў. Установы і школы паразганяны, каапэратывы пазачыняны, газэты—так сама.

Але тое, што вырасла раз на горадзенскім *беларускім* грунце, ня можа назаўсёды счэзнуць з аблічча зямлі, пакуль самы гэны грунт будзе існаваць. Беларуская прэса нядаўна адзначала яркія праявы беларускае сьвядомасьці сярод горадзенскіх работнікаў. Пісалася аб энтузьястычным спатканьні беларускіх паслоў, прамаўляўшых на публічных сходах. Праўда, пісалася і аб тым, што мясцовая ўлада ўраз-жа распачала рашучыя крокі дзеля разгрому беларускага работніцкага руху. А тым часам учора пошта даставіла нам самую красамоўную праяву таго, што ў „чыста-польскай“ Горадні, як і ў „чыста-польскай“ Вільні *жыве беларускі дух!*

Мы атрымалі экзэмпляр *беларускае аднаднёўкі „Выстрал“* з датай 8 кастрычніка с. г. Аднаднёўка мае характар голасу працоўных, сьвядомых сваіх сацыяльных і нацыянальных патрэбаў. І тое, што ў горадзенскай глушы яна магла гэтак неўспадзеўкі ўрадзіцца, запраўды робіць уражаньне неспадзяванага стрэлу, толькі стрэлу радасьці—*на знак, што мы жывем.*

Так, жывем і жыць будзем. І не памогуць усе хітрыкі „пануючае нацыі, не паможа ні чужая школа, гвалтам накіданая беларускаму народу, ні аружныя асаднікі, якія з вінтоўкамі ў руках маюць нясьці „дзікім“ беларусам „высокую польскую культуру“.

Не паможа, бо жывы народ можна аружнай сілай зьніштожыць фізычна — папросту выразаць. Але, паскольку жыве народная маса, пастольку замест адсяканых пабегаў яна будзе ўсьцяж выпускаць усё новыя і новыя.

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

## Прычыны паражэньня меншасьцяў у Лізе.

„Діло“ прысьвячае перадавіцу аналізу прычынаў паражэньня ўкраінскай справы на апошняй сэсіі Лігі Народаў, ці наагул—справы меншасьцяў у Польшчы.

Гэтыя прычыны — ўзрост уплываў Польшчы ў Лізе Народаў—праз дадатняе ўражаньне, якое зрабіў новы мін. Скшыньскі, які лоўка „зайграў у міравую дудку“—пасьля сваіх папярэднікаў, што „задзёрча грымелі ў ваенныя трубы, пагражаючы налева і направа збройнай сілай“.

Праўда, гэта ўсё не разганяе тых хмараў, якія зьбіраюцца над Польшчай—як з боку Нямеччыны, каторая не пакіне Польшчы ані Данцыга, ані „калідору“, ані Сьлёнску,—таксама і з боку ССРР, які не пакіне ў польскім „спакою“ ані „крэсаў“ наагул, ані Галіччыны асабліва; але гэтая „мірная дудка“ зрабіла добрае ўражаньне ў агульным „міравым канцэрце“, які давала ў працягу некалькіх тыдняў Ліга Народаў.

Вось, яна неяк і паверыла ўва ўсё, што казаў і абяцаў ей урачыста польскі міністар у галіне „лібэральнай палітыкі“, адносна да меншасьцяў.

Другая і галоўная прычына паражэньня ўкраінцаў, а разам з тым і беларусаў у Лізе—ў тым, што ў часе, калі польскі салавей на паседжаньні Лігі гэтак салодка пяяў аб „лібэралізьме“ польскіх „крэсавых“ (языковых) законаў, аб „зусім гатовым“ загадзе ўраду ў справе „ўкраінскага ўнівэрсытэту“ і г. д., слухачы гэтых песьняў, ані сэкрэтарыят Лігі ня былі добра і вычэрпываючы паінфармаваны ні аб тэксьце гэных законаў, ні, наагул, аб „лібэралізьме“ польскай палітыкі.

**Усё гэтае вельмі спазьнілася.** Дый, наагул, інфармаваньне Эўропы аб нашых справах—вельмі недастатачнае!

„Діло“ прыводзіць запраўды цікавы факт, што прадстаўнік англійскага ўраду і вялікі палітычны дзеяч Морэль толькі цяпер, асабіста ў Львове, даведаўся аб тым, што ў Усходняй Галіччыне выбары ў Польскі Сойм адбыліся **перад пастановай Рады Паслоў** (Антанты) аб прызнаньні Галіччыны ўваходзячай у склад Польшчы! Ён быў перакананы, што выбары гэтыя адбыліся **легальна**—пасьля прызнаньня граніц Польшчы 14 сакавіка 1923 г.

Гэты прыклад вельмі тыповы.

Вельмі сумным зьявішчам, як сярод украінцаў, таксама і сярод беларусаў было тое, што розныя групы і партыі вялі ў часе апошняе сэсіі Лігі нязгодную, ці нават варожую адна да аднэй, а ў канцы канцоў, вельмі шкодзячую агульнай справе, часта асабістую палітыку.

Напрыклад, украінскі мэморыял да Лігі выслаў толькі Народны Камітэт (урад трудавікоў) за подпісам свайго **прэзыдыуму**. Іншыя партыі—з няведамых прычын—не падпісалі мэморыялу. Далучыў свой подпіс толькі асабіста Петрушэвіч.

Газэта слушна падкрасьляе, што гэткі мэморыял разглядаўся Лігай, як прыватная інфармацыя, ня маючая **сілы заявы палітычнай рэпрэзэнтацыі народу**, гэткую рэпрэзэнтацыю прадстаўляюць не палітычныя партыі, якія не падлягаюць ніякаму кантролю і могуць тварыць саматугам, а толькі **парляманцкае прадстаўніцтва народу.**

І вось украінскія паслы (Галіччына ня мае паслоў, Трудавая Партыя таксама ня мае ніводнага пасла ў Польскім Сойме) нічога не зрабілі дзеля таго (—пасьля дэманстрацыі ў Сойме), каб **паставіць справу інфармацыі на міжнародным грунце на адпаведную вышыню.**

Ніводзін пасол з нашых меншасьцяў не паехаў у Жэневу, каб там за кулісамі Лігі інфармаваць асабіста яе дзеячоў аб праўдзе польскага „лібэралізму“. А якраз польскія паслы ўсіх партыяў праз увесь час сэсіі Лігі сядзелі ў Жэневе.

Гэта-ж самае трэба сказаць і аб беларусах, толькі нашыя абмылкі можа яшчэ сумнейшыя, ці папросту праступныя. Ведама, што мэморыял аб беларускай справе ў Польшчы падаў толькі Ластоўскі, з пункту гледжаньня сэкратарыяту Лігі, гэты мэморыял ня меў **поўнай вартасьці адказнага дакумэнту.** Але тое, што зрабіла пражская група беларусаў, — так званы „ўрад“ Б.Н.Р., публічна заявіўшы аб адсутнасьці паўнамоцтваў у аўтара мэморыялу,—гэта-ж папросту праступленьне!

Дык нічога дзіўнага, што „Камітэт Трох“, па-

## Прамысловы крызіс у Польшчы.

Згодна з анкетай Цантральнага Саюзу польскіх прамыслоўцаў, прамысловы крызіс у Польшчы ня толькі не слабееаць, а ўсе йшчэ павялічываецца, хаця й ня так шыбка. У сувязі з гэтым расьце лічба безработных, якая з 67.000 у студзені дайшла да 160.000 на 1 верасьня с. г., што, як піша „Gaz. Warsz.“, асабліва пярэчыць оптымістычнай ацэнцы палажэньня.

Дабываньне вугальля зьмяншаецца; таксама і прадукцыя гутаў, якая ў б. расейскай Польшчы ў апошнія месяцы ўпала блізу да нуля, а на Горным Сьлёнску ад студзеня да жніўня зьменшылася ў некалькі разоў.

Слабее і рух на чыгунках. У 1923 годзе нагружалі 10 з паловай тысяч вагонаў у дзень, цяпер толькі ад $7\frac{1}{2}$ да $8\frac{1}{2}$ тысяч.

Гэтыя тры галіны эканамічнага жыцьця Польшчы, паводле лейб-органу эндэцыі, найлепш сьведчаць аб аслабленьні пульсу гэтага жыцьця.

Апрача сэзоннага пад'ёму прадукцыі ў некаторых галінах прамысловасьці (як, да прыкладу, выраб сельска-гаспад. машын), усюды йдзе ўпадак прадукцыі.

Мэталёвая і мэханічная вытворчасьць знаходзіцца ў вельмі цяжкім палажэньні ў сувязі з вялікім зьмяншэньнем казённых і прыватных заказаў. Цэны некаторых зялезных кантрукцый (абарудаваньняў) паніжаны ніжэй перадваенных, дый няма заказчыкаў.

Дрэваабробная вытворчасьць упала да 30%; супэрфасфатная знайшла збыт ледзьве для паловы сваіх прадуктаў, якія можа вырабіць.

Лепей справа стаіць з мылаварнямі, вырабам штучнага шоўку і гумовай прадукцыяй. І толькі адзін від прадукцыі мае быць пашыраны: гэта цукраварства, дзеля якога сёлета значна павялічаны пасеў цукровых буракоў.

---

знаёміўшыся з усім гэтым матар'ялам, **ня меўшым фармальнага** адказнага значэньня, папросту палажыў яго пад сукно, „паверыўшы“ **афіцыяльным** заявам польскай дэлегацыі.

І вось не апошнія прычыны нашых паражэньняў у Лізе. Нашыя паслы, адважыўшыся на адважныя заявы ў Польскім Сойме, павінны былі давясьці ўсю справу пратэсту і да „міжнародавага Сойму“ ў Жэневе...

На гэта яны мелі ня толькі абавязак, але і бясспрэчнае права—на точнай падставе трактату аб меншасьцях і прынятай у Лізе „працэдуры“ ў справе скаргаў меншасьцяў.

**В.**

## Аб чым пішуць.

### „Miałeś, chamie, złoty róg“....

Пасол Воевудзкі (левае крыло „вызваленцаў“) надрукаваў ў часопісі „Wyzw. Ludu“ вельмі цікавы для нас, беларусаў, артыкул. Гэты шчыры „пілсудчык“ дайшоў да таго перакананьня, што гэта ня раз сцьвярджала левая беларуская прэса, вінавайцам усяе сучаснае нядолі беларускага народу зьяўляецца пан Язэп Пілсудскі.

П. Воевудзкі лічыць, што беларусы справядліва вінавацяць польскую дэмакратыю ў няшчырасьці і фальшу: у польскіх адозвах

**СЯЛЯНЕ!** Памятайце, што „Сялянская Праўда“—гэта **вашая газэта**, дык вы самі павінны яе і ўтрымаць. Дзеля гэтага **акуратна шліце падпісныя грошы** і намаўляйце да гэтага другіх!

Хто ў цяжкую пару задоўжыўся, хай, сабраўшы з поля, **адашлець свой доўг!**

Падпішчыкам, якія **да І лістапада** заплоцяць зразу грошы да канца году, будзе **бясплатна** разасланы зборнік — вялікая кніжка ў 156 стр. —

**„Заходняя Беларусь“.**

1919 году было столькі пасулаў беларускаму народу, — а ці хоць што-колечы аказалася споўненым?—Ды нічога!

> „А польская дэмакратыя,—піша п. Воевудзкі,—мела тады магчымасьць многа зрабіць. Яе правадыр, Язэп Пілсудскі, быў на вышыні сваей магутнасьці.... Даволі было аднаго прыказу—аднаго дэкрэту Пілсудскага, каб найтруднейшая рэч была зьдзейсьнена. Асабліва за Усходніх Землях ён, як глаўнакамандуючы, быў неабмяжованым дыктатарам, нікім не кантраляваным, меўшым магчымасьць зьдзейсьніць тое, што, як сацыяліст, ці хаця-бы, як радыкал, праз усё жыцьцё прызнаваў справядлівым. Гэтак, ён мог, апіраючыся на чэснай і ў той час радыкальнай польскай дэмакратыі, разам з прадстаўнікамі працоўнага народу украінскага і беларускага абвясьціць Волю і Незалежнасьць Украіны і Беларусі, сфэдэраваных з Польшчай, мог адначасна склікаць соймы гэтых народаў не на 2—3 месяцы і ня дзеля дыпляматычных мэтаў, як гэта было з віленскім соймам, а дзеля сталае законадаўчае працы для гэтых краёў.... Так хороша, так прыкладна, справядліва магло быць. На жаль, так ня сталася!“

Пан Пілсудскі, абманываючы беларусаў сваей „шчырасьцяй“, выдаў Беларусь у рукі польскіх паноў і ксяндзоў, з якімі зрабіў паціху змову проці нашага народу. І тое, што тады пачаў п. Пілсудскі, цяперашняя польская ўлада толькі пасьледавальна разьвівае далей.

Многа тады праўдзівых беларускіх дзеячоў, выбраных усім нашым народам, пробавала гаварыць з п. Пілсудскім. А ён... скончыў тым, што пазволіў п. Патку (так-сама „сацыялісту“) інтэрнаваць у Варшаве галаву ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі, проці чаго нават францускі парлямант тады пратэставаў!

Цяпер шанаючыя сябе беларускія дзеячы, запраўдныя прадстаўнікі свайго народу, ўжо ня маюць аб чым гаварыць з польскім урадам. Апошняму асталіся дзеля гутарак толькі... Валэйшы, Більдзючевічы, Косьцевічы, Павлюкевічы ды Знамяроўскія...

### Чаму Літва цураецца Польшчы?

На гэтае пытаньне дае адказ тыднёвік „Życie Ludu“, выдаваны ў Вільні.

> Перадусім літвіны бачаць у палякоў вялікія нацыяналістычныя захватніцкія імкненьні, якія апанавалі ўсе слаі польскага грамадзянства ад правіцы да так званае лявіцы ўключна.
>
> Палітычныя інтарэсы Польшчы вымагаюць пашырэньня яе граніц коштам зямель, заселеных няпольскаю люднасьцю, а каб спольшчыць гэтыя землі, істнуе нямецка-маскоўскі спосаб калянізацыі; на гэтых насаджаных калянiстах (асадніках) урад з часам можа абаперціся і даводзіць сьвету аб сваіх натуральных правох....
>
> З прычыны таго, што Літва ня хоча дабравольна пайсьці на саюз з Польшчай, польскія палітыкі стараюцца прымусіць яе да гэтага гвалтам.
>
> Апанаваўшы Літву, польскі ўрад распарцэляваў-бы ўсе панскія двары паміж галілейцяў і караніяжаў (з Галіччыны і б. расейскае Польшча), а тамтэйшае літоўскае насяленьне не дастала-бы ні пядзі зямлі ды была-бы прымушана эміграваць з бацькаўшчыны, шукаючы куска хлеба на чужыне. А пасьля польская ўлада пасьпяшыла-бы вырубіць літоўскія лясы дзеля паправы сваіх фінансаў...

І гэтак далей. Акурат усяго таго баяцца літвіны, што ўжо сталася і далей дзеецца ў забранай Польшчай Заходняй Беларусі.

Прыклад Беларусі хіба-ж нікога ня можа заахвоціць да саюзу з Польшчай!

## Палітычны агляд.

### У Польшчы.

#### Зьезд вучыцялёў.

У Варшаве на агульнапольскім зьезьдзе вучыцялёў пачаткавых школ, якіх набралася аж 770 сяброў, у прысутнасьці „госьця“ — мін. асьветы Міклашэўскага, сэн. Новак і пасол Навіцкі паддалі рэзкай, але справядлівай крытыцы ўсю дзеяльнасьць гэтага міністра.

Сэн. Новак, кажаць аб праекце пана мін. асьветы перадаць у ваяводзтвах усіх вучыцялёў і ўсе школьныя ўлады пад найвышэйшы загад „уладаў адміністрацыйна-палітычных“ (папросту) паліцэйскіх!

Прамоўца выясьніў, у чым тут „сабака“: гэткае падпарадкаваньне палітычнай уладзе „апалітычных“ школы і вучыцельства — зрабіць з апошніх паслушную палітычным загадам ураду армію ў часе выбараў.

Пас. Навіцкі сцьвярдзіў, што ў працы ўраду школа стаіць на апошнім пляне. Аб школьнай палітыцы сучаснага міністра асьветы п. Міклашэўскага найлепш сьведчыць яго тайны цыркуляр — куратарам і інспэктаром, каб яны імкнуліся да зачыненьня пачаткавых школ, каб яны вышуківалі ўсялякія повады для гэтага зачыненьня, бо гэта йдзе на карысьць агульнай эканоміі тэй палітыкі ашчаднасьці, якую змушана цяпер вясьці Польшча.

---

## Стан прамысловасьці у БСРР.

*(Паводле справаздачы „Сав. Бел“.).*

### Заробак і прадукцыйнасьць працы.

Аснаўнымі мамэнтамі, характарызуючымі стан прамысловасьці ў БСРР, зьяўляецца заробак рабочых, занятых у прадпрыемствах, а таксама прадукцыйнасьць працы.

Па даных Рады Народнае Гаспадаркі БСРР, заробак рабочых і прадукцыйнасьць працы няўхільна павышаюцца. За апошні час прыкмячаецца, праўда, некаторае адставаньне ў павышэньні прадукцыйнасьці працы ад павышэньня заробку.

Гэтак, за пэрыяд студзень—сакавік 1924 г., у параўнаньні з пэрыядам кастрычнік—сьнежань 1922 г. заробак рабочых павысіўся на 151 процант, прадукцыйнасьць-жа працы толькі на 119 проц.

Але, ня гледзячы на гэта, у асобных галінах прамысловасьці прадукцыйнасьць працы дасягнула ўжо нормаў даваеннага часу.

Далейшы ўзрост прадукцыйнасьці працы зьвязаны з палепшаньнем тэхнікі і формаў вытворчасьці, увядзеньнем боцьш рацыянальнага выкарыстаньня рабочай сілы і спосабаў навуковай арганізацыі працы.

### Вытворчыя праграмы.

Ня гледзячы на тое, што абаротны капітал усяе беларускае прамысловасьці (6.800.689 р.) складае толькі 20 процантаў гадавой прадукцыі, намечаныя на 1923—24 г. вытворчыя праграмы ў розных галінах прамысловасьці ў сярэднім будуць выкананы на 95 процантаў.

Адначасна з выкананьнем праграмы ідзе павялічэньне абаротаў гаспадарчых адзінак.

Гэтак у першым паўгодзьдзі 1922—23 г. абароты гаспадарчых адзінак, РНГ (лічачы і прадпрыемствы далучаных мясцовасьцяў) складалі 6.505.411 р., у першым паўгодзьдзі 1923—24 г. абароты іх складаюць ужо 13.636.810 р.

### Рух рабочай сілы.

На 1-га кастрычніка 1922 г. ва ўсіх прадпрыемствах БСРР у сучасных межах было 7.070 рабочых і 1.448 служачых; на 1-га кастрычніка 1923 г. лік рабочых, занятых на прадпрыемствах, дасягае 8.663 чал. і лік служачых зьмяншаецца да 1.372 чал.

На 1-га красавіка 1924 г. лік рабочых крыху зьменшыўся, даходзячы да 8.338, а лік служачых 1.127. Зьмяншэньне ліку рабочых на 1-га красавіка 1924 г. знаходзіцца ў залежнасьці ад некатсрых зьмен, якія адбыліся ў прамысловасьці, у зьвязку з аб'яднаньнем часткі прадпрыемстваў і зьмяншэньнем абаротных сродкаў.

### Дрэваабробная прамысловасьць.

Гэта галіна прамысловасьці займае па сваіх разьмерах і вытворчай праграме першае месца сярод асобных галін беларускай прамысловасьці. Вытворчая праграма дрэваабробнай прамысловасьці складае 20,4 проц. агульнай вытворчай праграмы РНГ.

Забясьпечанасьць прадпрыемстваў гэтай галіны сыр'ём і блізкасьць загранічнага рынку ў значнай меры дапамагае разьвіцьцю дрэваабробнай прамысловасьці.

### Харчовая прамысловасьць.

Гэта галіна прамысловасьці складае 18,5 процантаў агульнай вытворчай праграмы. Харчовая прамысловасьць грунтуецца, галоўным чынам, на перабоцы мясцовых с.-г. пвадуктаў і, такім чынам, яна зьвязана з разьвіцьцём сельскай гаспадаркі Беларусі.

РНГ прымае ўсе меры да разьвіцьця харчовай прамысловасьці. Гэтак, у бліжэйшы час СНГ мае пусьціць у ход два адрамантаваныя дражджовыя заводы. Трэці дражджовы завод мае быць пушчаны ў 1925 годзе.

### Паперная прамысловасьць.

Прадпрыемствы папернай прамысловасьці складаюць дробныя гаспадарчыя адзінкі, раскіданыя на тэрыторыі БСРР. Гэта галіна прамысловасьці абыймае 3 картонныя, 3 паперныя, 1 абойную фабрыку і 1 дрэвамасны завод.

### Скурная прамысловасьць.

Гэта прамысловасьць, як і паперная, патрабуе аб'яднаньня некаторых прадпрыемстваў.

З гэтаю мэтай РНГ мае зачыніць дробныя гарбарні ў Менску і пабудаваць адну вялікую гарбарню, прыстасаваную, галоўным чынам, для вырабу лёгкага сыр'я: хрому і інш., а пераробку сярэдніх і цяжкіх скур сканцэнтраваць у Віцебскай губэрні.

Такую-ж спэцыялізацыю РНГ мае правясьці і ў адносінах да абуўнай вытворчасьці. На Віцебскай абуўнай фабрыцы мае быць аб'яднаны, галоўным чынам, выраб простага абутку, а ў фабрыцы, якая будуецца ў Менску, выраб лепшага абутку.

Скурная прамысловасьць можа забясьпечыць сябе поўнасьцю беларускім сыр'ём, за выключэньнем каніны і цяжкіх падшвяных скур.

### Шклянаяя прамысловасьць.

Што датычыцца шклянай прамысловасьці, то ў сваім цяперашнім стане яна ня мае вялікіх магчымасьцяў для далейшага разьвіцьця. Большасьць гутаў на Беларусі зьяўляецца дробнымі прадпрыемствамі, знаходзячыміся далёка ад шляхоў зносін, у раёнах, не забясьпечаных апалам.

